1 Бычок крутарогі
Ідзе без дарогі,
У лесе не трэсне,
На плёсе не ўсплёсне,
Праз возера скочыць —
Капыткоў не памочыць.



2 Па зямлі я не хаджу
І на неба не гляджу,
Вочы маю — не міргаю,
Маю рот — не гавару,
Ёсць і хвост, але не звер я
І не птах, хоць ёсць і пер‘е,
Хаты зроду не будую,
Ды ні трохі не бядую.



3 Лупавокая Матруна —
Вечна мокрая макруня,
Ды пакуль не стане пецъ —
Яшчэ можна і сцярпець,
А як песню завядзе —
Няма радачкі нідзе:
Хоць ты вушы затыкай
Ці за тры вярсты ўцякай.



4 Лясной сцяжынкай,
Дзе густыя шаты,
Працаўнічок
Спяшаецца дахаты,
Яго амаль і не відаць,
Малога,
А цягне — болей
За сябе самога.



5 Раджаецца моўчкі,
І моўчкі ляжыць,
Памрэ — зараве
І наўцёкі бяжыць.



6 Домік,
Поўненькі дабра,
Доўга
Быў без жыхара,
А жыхар
Як паявіўся —
Домік тут жа
Развaліўся.



7 На полі аксамітавым
Чароўнае пісьмо:
Сярэбраныя літары
І пішацца само,
Удзень яно хаваецца,
Увечары відаць,
А хто з вас пастараецца,
Той зможа прачытаць.

8 Шустранькі,
Маленькі,
Сам у шэрай світцы
Шукае канапелькі,
Каб трохі пажывіцца.



9 Удзень адпачывае,
Забіўшыся дзе ў хвойнік,
А ноччу выгукае,
Нібы які разбойнік, —
Папаляваць ён любіць,
Калі ўсім іншым спіцца,
Яго баяцца людзі,
А ён людзей баіцца.

10 Чатыры хадуны —
Каб чабаткі таптаць,
Чатыры цвыркуны —
Каб дзецям радасць даць,
А вілы прад сабой —
Усім звярам на страх,
А ззаду — мухабой:
Хлясь — мах!
Хлясь — мах!
Хлясь — мах!





11 З барадою нарадзіўся —
І ніхто ў нас не здзівіўся,
Любіць лыка драць у лесе,
А лапцей не ўмее плесці,
Нібы птушка, мае пух,
А ў хляве — нядобры дух.

12 Столь
Без бэлек і без дошак,
Высака над намі,
Збіта ўпоперак
І ўдоўж
Белымі цвікамі.

13 Хоць і звер, а ласкавы,
Кажушок атласавы,
Лапкі аксамітныя —
Вельмі ж яны спрытныя.
Вушкі хоць маленькія —
Надта ж удаленькія,
Вочкі ўночы стрэцяцца —
Вугалькамі свецяцца,
На пяколку грэецца,
Без вадзіцы мыецца,

Часам раздурэецца —
Посудам абмыліцца:
Зліжа не са сподка,
Дзе не так салодка,
А з таго гарлачыка,
Дзе надзвычай смачненька.



14 Нішто не ляцела,
Нішто не спужала,
А ўся затрымцела,
А ўся задрыжала.



15 Касцёр
Пад дрэўцам
Не гарыць.
Кацёл
Не грэўся,
А кіпіць.

Кіпіць, кіпіць,
Не выкіпае,
Кранеш рукою —
Апякае.



16 Хоць бяскрылы, а лятае,
Безгалосы — свішча,
Хоць бязрукі, а, бывае,
Грушы ў садзе абівае,
Нават часам вырывае
Дрэва з каранішчам,
А як зморыцца — ўпадзе,
І няма яго нідзе.



17 Закаціўся пад плот,
Лёг у баразёнцы,
Паласаты жывот
Грэючы на сонцы.

18 Як вечар — апускаецца,
Ноч на зямлі ляжыць,
Уранку падымаецца
І ў неба зноў ляціць.

19 То я яго збіраю,
То кідаю ў зямлю,
З ім сыты сам бываю
І шчэ людзей кармлю.





20 Царэўна ў няволі,
У цёмнай каморы,
А косы на сонцы,
На вольным прасторы.

21 Што за спакуса:
Мяса ні куса,
Чоран, як воран,
Рагаты, як бык,
Доле — маруда:
Паўзе ледзьве-ледзь,
А крылы расправіць —
Раве, як мядзведзь.



22 Зусім-зусім нячутна
Вялізны белы бык
Падыдзе да аконца
Ды ў шыбу рогам тык, —

І стуку не наробіць,
І не патрушчыць шкла,
А стане відна ў хаце
Ад яркага святла.



23 Крывая Кася
На ўвесь свет разляглася,
Каб устала,
Дык бы неба дастала.



24 Сядзіць пані на мурку
У чырвоным каптурку,
Хто ні пройдзе —
Спыніць крок,
Каб сарваць той каптурок,



25 Ішла дзяўчына з торгу,
Гароху несла торбу
І рассыпала гарох
На дванаццаць дарог:
Ні лапатай згрэбсці,
Ні мятлою змесці,
А як стала світаць —
Дык няма чаго збіраць.



26 Поўная бочачка
Чорных круп,
Замест затычкі
На версе — струп.





27 Хтосьці дужы,
Невядомы
На раку паклаў пячаць:
Без сякеры
Ці без лома
Анікому не пачаць.

28 Вырасла урода
На ўскрайку агарода,
Хто за яе прымецца —
Як уджалены,
Скрывіцца.



29 Ні шляхам-дарогай,
Ні полем-разлогай
Ішоў маладзён
І зіхцеў красой,
А вымыўся ён
Ні вадой, ні расой,
А выцерся ён
Ні тканым,
Ні праным.

30 У цёмнай цямніцы
Сядзяць працаўніцы —
Ні свята для іх,
Ні нядзелечкі,
Вязаначку вяжуць,
Нібы чараўніцы:
Нідзе ні вузла,
Ні пяцелечкі.



31 Што за дзіўнае стварэнне:
Вырастае без карэння,
І зусім яна без цвету,
А патрэбна ўсяму свету,
Хоць родзіцца на вадзе,
А ў ваду кінь — прападзе.



32 Сядзіць Хадосся,
Растрапаўшы валоссе,
Хто ні міне —
Той скубане.

33 Семсот семдзесят
І сем цесляроў
Збудавалі сабе дом
Без вуглоў.

34 На вялізарнай патэльні
Ды маленькія аладкі,
Пасярод — прыгожы вельмі
Каравай румяны, гладкі,
Ды ў такім высокім месцы —
Не панюхаць і не з'есці.





35 Аднойчы дзядзька русы
Спаткаўся ў полі нам:
Тырчаць угору вусы
Даўжэйшыя, чым сам.



36 Што гэта за дзіва,
Што за рэч:
Косці пературшчым —
Кінем прэч,
Галаву на масла
Перальём,
Скуру на вяроўкі
Пераўём.



37 Бочка стогне на падворку,
Заваліўшыся пад плот,
А баяры ўсёй дружынай
Прагна смокчуць з бочкі мёд.



38 З белага каменя,
З жоўтага воску
Выйшаў спявак
І запеў на ўсю вёску.



39 Маленькая паненачка
Схавалася ў цянёк:
Чырвоная сукеначка,
А беленькі пянёк.

40 Распрануўся мал-малышак
І саскочыў голы з вышак,
Пакаціўся па руках,
Апынуўся на зубах.

41 Гусі ў гародзе
Ўсё лета сядзелі,
Восенню позняй
Кудысь паляцелі,
Не лапаталі,
Не гагаталі,
Лапы на градах
Папакідалі.






42 Яно для ўсіх нас —
Добры друг,
Хоць дзіваком здаецца,
Што надзяе вясной кажух,
А ўвосень раздзяецца.



43 Праз горы, даліны,
Праз тысячы сёл
З далёкай краіны
Вярнуўся пасол.
Спаважны, чыноўны,
Ён стаў на страсе,
У ботах чырвоных,
Каб бачылі ўсе.



44 Ляцела пава,
На каменне пала,
Каменне разбіла,
Мёртвых разбудзіла,
Мёртвыя усталі —
У дудачкі зайгралі.

45 Спераду — шыльца,
Ззаду — вільца,
Спадыспаду —
Белы шоўк,
Зверху —
Чорны аксаміт,
Чуць бліжэй
Я падышоў —
Спрытна
Жвыгнула ў блакіт.



46 Узышоў на горку,
Адчыніў каморку,
Выпусціў сабачак,
Пэўна, больш за дзвесце,
Ды такіх сярдзітых,
Што маглі б заесці:
Ні ад іх адбіцца,
Ні абараніцца,
Ні ім хлеба кінуць,
Каб як адкупіцца,
Добра, што прынесці
Дыму здагадаўся —
Накурыў,
Надыміў, —
Дык уратаваўся.

47 Ідзе
Спаважнаю хадой,
Нясе
Бліны пад барадой.



48 Маленькі шарык
Пад лаўкай шарыць,
Збірае крошкі,
Баіцца кошкі.



49 Пляскатая, малая,
А што за сілу мае:
З сабою хату носіць
І памагчы не просіць.



50 Усе чыста мужыкі
Паскідалі кажухі,
Толькі трое мужыкоў
Не скідаюць кажухоў.



51 Бліснула,
Зламалася,
Дзесьці ўміг схавалася,
Ні дагнаць,
Ні след пазнаць —
Толькі водгулле чуваць.



52 Парушыну
Кіну ў градку, —
Потым выцягну таўкач,
А хто ведае загадку —
Калі ласка, растлумач.





53 Бегла ноччу ліска
Каля лесу блізка,
І была ўсім відаць
Залатая пыска.

54 Як ідзе —
І шастом галавы
Не дастаць,
А ўпадзе —
І з травы-муравы
Не відаць.

55 Дуга злучыла берагі
Прыгожа, нібы ў казцы,
А вось званочак да дугі
Прымацаваць не ўдасца.

56 Ты стаіш ля мяне
І глядзіш на мяне,
Каб дастаў ты мяне
Ды ўкусіў ты мяне —
За мядок-саладок
Пахваліў бы мяне.

57 Праз усю зямлю
Прайшоў,
Шапку чорную
Знайшоў,
Стаў ля сцежачкі якраз,
Выстаўляе напаказ.
Ох, дзівак,
Няхай бы лез
У гушчар пад лапкі:
Сёння ж прыйдуць
Дзеці ў лес
Па такія шапкі!



58 І зімой, і летам —
Белая, як снег,
І зімой, і летам —
Як надзьмуты мех,
Ходзіць на лапатках
Бегае нягегла,
Рогам есць і п'е,
А гергеча гэтак,
Што нікому нельга
Зразумець яе.

59 Залатая бочачка
Уранку пакацілася —
Ні стукату,
Ні грукату,
Не ўпала,
Не разбілася,
Калі ж накрасавалася —
За цёмны лес схавалася.



60 Ехаў Тота
Куды трэба,
Прывязаў
Каня да дрэва,
Не хацеў
Да маладога,
Кажа:
— Лепей да старога,
Ля старога
Прыпынюся —
Дык напэўна
Пажыўлюся.

61 Нарадзіўся
Сярод градкі,
Быў шурпаты —
Вырас гладкі,
І ляжыць
Пад кустом
Дагары
Крывым хвастом.

62 Гайда, дзеці, ўвечар
Дзіва паглядзім:
Поўны хлеў авечак,
А казёл — адзін.

63 Што за загадка,
Прашу адгадаць:
Пад латаю латка
І швоў не відаць?





64 У чубатых дочак
Па семсот сарочак,
Па семсот спаднічак,
А без чаравічак.



65 На вадзе —
І не плыве й не тоне,
На агні —
Не тлее, не гарыць,
Па пяску ідзе —
Слядоў не знойдзеш,
Па саломе ходзіць —
Не шасціць.



66 У адной
Маленькай бочачцы
Піва ў піве
Стала боўтацца,
Півы два —
І вельмі розныя,
П'е дзятва,
І п'юць дарослыя.



67 Што гэта за блузачка,
Што гэта за сіняя,
Што на трыста гузічкаў
Залатых
Зашпілена?



68 Бягуць жарабкі
Буланыя,
Усе павадкі
Парваныя,
Ні сесці на іх,
Ні ўпрэгчы,
Ні з пугай услед
Пабегчы.



69 Зімою грэе,
Вясною тлее,
Летам памірае,
Восенню ажывае.



70 Што за птушка хатняя
Гэткая нахабная:
Нават не баіцца
Вам на нос садзіцца?



71 Чорнае сукно
Лезе праз акно.



72 Чацвёра бягуць,
Двое стрыгуць,
Двое глядзяць —
На варце стаяць,
Семсот паганяе.
Хто адгадае?

73 Ідзе дзяцюк
З двара ў адрыну,
Вышэй сябе
Нясе дубіну,
Ідзе ён, грозны,
На вайну,
Душу загубіць
Не адну,
А як закончыць
Страшны бой —
І мы не ўцямім
З вамі:
Нашто дубіну
Нёс з сабой,
Калі душыў
Зубамі?

74 На цёмным лузе
Без травы
Пасецца ўночы
Конь сівы.

75 У белым сарафане,
Пад хусткаю зялёнай
Сумуе на паляне
Танклявая Алёна.



76 У лужку-лужочку
Выраслі сястрычкі:
Залатое вочка,
Белыя раснічкі.



77 Дзе збягаюць
Травы ў яр —
Красаваўся
Белы шар,

Наляцеў
Жартун-вятрыска,
Нешта травам
Прашушукаў —
І з шара ўзнялося
Трыста
Лёгкіх
Белых парашутаў.

78 Жыве ў дупле,
На дрэве,
Як птушка,
Скача ў голлі,
Гушкаецца, дурэе —
Няблага на прыволлі!
Грыбкоў сабе
Насушыць,
Арэшкаў назбірае, —
Зіма сняжком
Цярушыць,
А ёй — бяда малая.







79 Летам — шэры,
Зімой — белы,
Палахлівы і нясмелы.
Папсуе ў гародзе
Градкі —
Уцякае без аглядкі,
А сабачы брэх пачуе,
Дык душа —
Адразу ў пяткі.



80 Рыжая дзяўчына
Залезла ноччу ў двор —
Курэй пераліčыла
І ўсіх панесла ў бор.

81 Завітала ў хату пані
У чырвоным сарафане,
Як пачалі распранаць —
Сталі плакаць, праклінаць.



82 Папераблытаў ногі,
Папераблытаў вусы,
Разлёгся ля дарогі
Для нашае спакусы,
І цяжка абмінуць,
Каб трохі не ўскубнуць.

83 Пад разгалістым
Дубком
Улягаюся
Клубком,
А мышыны
Хвосцік тонкі —
Пад сябе запхну,
Дый толькі!



84 І вялікая, як мора,
І хвалюецца, як мора,
І бурштыну столькі мае,
Што на хвалях ледзь трымае.
Як збяруць бурштын каштоўны
Ды насыпяць куфар поўны, —
Стане дзіўна і нязвыкла:
Ёсць бурштын,
А мора... знікла!

85 Як ляцеў —
Зіхацеў,
Як упаў —
Чорны стаў.

86 Пад паветкаю, напэўна,
Вераб'ёў семсот усіх,
І адзін агністы певень
Важна ўсеўся паміж іх.

87 Раздвоена бародка,
Вяльможая паходка,
Ідзе — як цар да трона,
На галаве — карона.





88 Вясной
У белым плацці,
Прыбраўшыся, стаяла,
А потым плацце знікла,
Згубілася, прапала,
А гузічкі на нітках
Трымаліся ўсё лета
І чорненькімі сталі.
Дык што ж такое гэта?



89 Ёсць дзве сястрыцы родныя:
Зялёныя — дык роўныя,
Падобны так абедзьве,
Што і адрозніш ледзьве,
А потым нешта зробіцца —
І сёстры распадобяцца:
Адна пачырванее,
Другая пачарнее.



90 Доўгі,
Чорны Савасцей
Прэцца ў неба
Без касцей.

91 Асцярожны,
Шэры,
Хітры,
Век галодны,
Шчэрыць
Іклы,
З-за кустоўя
Выглядае,
Вокам поплаў
Акідае:
Ці не ходзіць
Там цялятка,
Не цялятка —
Хоць ягнятка,
Не ягнятка —
Хоць бы гуска,
Хоць бы што —
Абы закуска!

92 Доўгі Мартын
Лез цераз тын.
Сам перабраўся,
Дзядзька Мартыне,
Ды галава засталася
На тыне!



93 Стаіць кусцік
Кучаравы,
Ды з воўчымі
Кіпцюрамі,
Хто на кветкі
Пакваніцца,
За таго ён
І ўхваціцца,
Не абдзёршы —
Не адпусціць.
Адгадайце,
Што за кусцік?



94 Галубка-невідзімка
Садзілася на дрэва,
Яечак нейкіх дзіўных
Нанесла, колькі трэба,
Па ўсіх сучках-галінках
Старанна іх развесіла,
А дзеці рвуць-зрываюць
Ды прымаўляюць весела:
— Дзякуем, галубка,
Што мяккая шкарлупка,
Салодзенькі бялок
І касцяны жаўток!



95 Знае нават і дзятва:
Калі ў шапцы выйшаў хтось,
Дык пад шапкай галава
У яго бясспрэчна ёсць.
А Мікіта баравы
Мае шапку, як і ўсе,
Ды не мае галавы.
На чым шапка?
Наназе!



96 Што за цуд за такі:
Па ўсім полі — светлякі,
А найбольшы святляк
Перагнуўся, як чарвяк.



97 Маленькі сам,
Нос доўгі, колкі,
Танчэй,
Вастрэй
Любой іголкі.
Пакуль ляцеў,
Усё крычаў,
А толькі сеў —
І замаўчаў.
Па ім рукою
Стукнуў я.
Забіў!..
А кроў цячэ мая.



98 Расце ён зімою
Уніз галавою,
Камлём дагары,
І расце да пары:
Як стане грэць сонца —
Ён плача бясконца,
Сыходзіць слязамі
І ўвесь прападае.
Падумайце самі:
Мо хто адгадае?



99 Хоць не хворая ані,
А ўсё стогне дзень пры дні,
Хоць нічога не згубіла,
А ўвесь час шукае,
Ўсё навокал перарыла...
Хто ж яна такая?





100 Пад хвоямі,
Пад смолкімі,
Па лясных дарожках
Бяжыць
Клубок з іголкамі
На кароткіх ножках.

101 Да чаго салодзенькая
Кашка!
Мёд — не кашка!
Толькі выняць цяжка,
Бо пакуль не разаб'еш
Гаршчочка —
Не з'ясі той кашы
Ні камочка.

102 Паміж
Каменне і травы
Паўзе
Змяя без галавы,
Без галавы,
Але шыпіць,
Злуе,
Аерам шалясціць.

А хвост —
Канца яму няма!
Паўзе змяя,
Пакуль зіма
Не пройдзе ўладна
Па двару,
Тады прыціхне
І замрэ,
І сніць
Да самае вясны
У моцнай спячцы
Казкі-сны.

103 Беленькая бочка,
На ёй — ні сучочка,
Ні абручыка,
Ні дна,
І хоць бы
Клёпачка адна!



104 Сіта не сіта,
Рукамі не віта,
І пража не пража.
Хто знае, той скажа.

105 Шавец не шавец
І кравец — не кравец,
А ножны ў руках
І шчацінка ў зубах.

106 Чырвонае цельца,
Каменнае сэрца,
Вінная на смак.
А завецца як?





107 Цягнецца нітка —
Без канца, без краю —
Лесам, пералескам,
Полем, каля гаю.
Ні яе парваць,
Ні ў клубок зматаць.



108 Падпёршыся кіем,
Накрыўшыся шапкай,
Стаіць пад ялінкай
Ціхусенька ён.
Хто міма праходзіць —
Сагнецца з пашанай
І нізенька ў пояс
Адвесіць паклон.



109 Адзін кажа:
— Пабяжым!
Другі кажа:
— Паляжым!
Трэці кажа:
— Не хачу
Ні ляжаць,
Ні мчацца,
Лепей буду я
Стаяць,
З боку ў бок
Ківацца.



110 Цёмна-сіняя рагожка
Скрозь усеяна гарошкам,
Пасярод акрайчык хлеба.
Хто адкажа так, як трэба?



111 Б'юць кулакамі,
Далонямі гладзяць,
Кладуць на лапату
І ў пекла садзяць,
А вымуць — нажамі
Крамсаюць без жалю,
За тое і крыўдзяць,
За тое і лупяць,
Што ўсе яго хочуць
І ўсе яго любяць.



112 Рэжуцца ў клетцы
Двое звяроў —
Цурочкамі льецца
Белая кроў.



113 Добра было б тут
Ляжаць лайдаку
На роўным і гладкім
Жалезным таку,
Ды вельмі гарачы
Жалезны ток —
Варочацца трэба
З боку на бок.



114 Прыехала пані
З дубовых лясоў —
Падперазалі
У сем паясоў.



115 На стол
Ускочыў певунок —
Цыбаты сам
І без кішок.



116 Качка ў мора
Акунецца —
Хвост над морам
Застанецца.



117 Стаіць бычок —
Абсмалены бачок.
Увесь век смаліцца,
І ніхто не зжаліцца.



118 Адгадай,
Хто кемнасць мае:
Верабей
Вала трымае.



119 Пакачуся на памост —
Застанецца доўгі хвост,
Ды за хвост той гаспадыня
Мяне з долу не падыме.



120 Ні свет ні зара
Прачнуўшыся,
Пайшоў са двара
Сагнуўшыся.
Не сам пайшоў —
Дваіх падчапіў,
Ваду знайшоў —
Дваіх утапіў.





121 Прачнуліся ўранку
Блізняты-браты:
Бяжы ты туды, брат,
А я, брат, туды.
Спаткаемся ў дзядзькі
На круглай гары
І разам пабудзем
Да позняй пары.

122 Наехала аблава,
Гаспадароў забрала,
А дом іх мокры
Выйшаў праз вокны.

123 Еду я, еду —
За мною ні следу,
Вяслом паганяю,
На смерць паглядаю.

124 Ляжыць калода
Сярод балота —
Не сохне, не гніе.
Назавіце яе.

125 Ідзе старчык,
Нясе стаўчык:
І кіпіць, і варыцца,
І далоў не валіцца.

126 Яшчэ з дому не сышоў —
Дзве дарогі знайшоў,
Глянуў — роўныя абедзве
І ў абедзве пайшоў.





127 Выйшаў з двара,
Убачыў звяра:
Ні воўк, ні мядзведзь —
Не магу зразумець:
Шэсць ног,
Адзін хвост
І дзве галавы.
Можа яго
Разгадаеце вы?

128 Круглыя, гарбаценькія,
Па краях — калмаценькія,
Па баках бялюсенькія,
Пасярод цямнюсенькія.
Як прыходзіць бяда —
Дык цячэ з іх вада.

129 Каля цёмнае нары,
На мокрай аселіцы,
Беленькія галубы
Ў два рады расселіся.

130 Кіну крывуліцу
Цераз плот на вуліцу —
Сякачыкі сякуць
Дробна-дробна,
А мокры карусь
Глядзіць, ці добра:
Паварочвае,
Падкладае
І ў яму скідае.



131 Конь худы
Дапаў да вады,
Піў ён і піў,
Пакуль смагу сагнаў —
Возера выпіў
Да самага дна.



132 Чорная ведзьма,
Крывая нага,
Золата ў скрыню
Грабе як мага.



133 Прыбраны ў белую кашульку,
Вышэй за ўсіх сядзіць,
Нібы на троне, курыць люльку
І навакол глядзіць.



134 Невялікі, ды грывасты
Канёк-гарбунок
Па ўсёй хаце ездзіў-шастаў
І схаваўся ў куток.



135 Выбег пеўнік за вароты,
Высунуўшы язык з рота,
Хоць не піў і не еў,
А крычыць, як ашалеў.



136 У самога
Анічога:
Ні вачэй,
Ні вушэй,
А дзе трэба —
Там і ходзіць,
За руку
Сляпога водзіць.



137 Маю ног я —
Колькі ўлезла,
Ды не простых,
А жалезных,
Дзень па полі цягаюся —
І не ў знак работа мне,
А дадому вяртаюся
Кожны раз — на спіне.



138 Чатыры родныя браты,
Як толькі нарадзіліся,
Дык пад адным капелюшом
Жыць цэлы век згадзіліся.



139 Тысяча кольцаў
І два канцы:
Адзін — закруціўся
На верхнім кальцы,
Другі пасярод,
Каб яго дастаць —
Тысячу кольцаў
Патрэбна зняць.



140 Рыбка бялява
Хвастом віляла,
Плавала ў лесе —
Нібыта ў моры,
Лес паламала —
Выраслі горы.

141 Раве, як цялятка,
Плача, як дзіцятка,
А ў самой —
Ні сэрца, ні кішок,
Толькі надзіманы
Трыбушок.



142 Поле — шкляное,
Празрыстае,
Чыстае,
Межы — драўляныя,
Падмаляваныя.

143 Мурзаты
І пузаты
Сказаў:
— Паслухай, конь:
Вазьмі мяне,
Вязі мяне
І кінь мяне ў агонь!



144 На адным канцы —
Дзівак,
На другім канцы —
Чарвяк,
І ўвесь дзень
У дзівака
Шмат надзей
На чарвяка.

145 У балоце ўся ляжыць,
І трашчыць,
І верашчыць,
Быццам жаліцца, крыўдуе,
Што нядоўга ёй жыць.
Падчапіце і цягніце,
Не чакайце дарма,
Бо і ссохне на балоце,
А не выйдзе сама.



146 Што за дзівосны конь:
У сэрцы ў яго — агонь,
Аўса яму не даюць,
І пугай яго не б'юць,
А як полем ідзе —
Сем баразён вядзе.

147 Гудзе, як пчала,
Ляціць, як страла,
Крылы хоць мае,
Але не махае.

148 Невялікае,
Без'языкае,
І не есць,
І не п'е,
А гаворыць
І пяе.







149 Што за дрэва ў свеце ёсць,
Што дупло ў яго наскрозь,
А ў дупло забраўся пісар:
Вечна піша і маўчыць,
Ростам гэткі ж, як і дрэва —
Толькі нос з дупла тырчыць.



150 Стаяць кійкі,
На кійках — шнуркі,
І па тых па шнурках
Аж за тысячы вёрст
Хтось нябачны зусім
Людзям весткі павёз.



151 Не світка, а сшыта,
Не куст, а з лістамі,
Маленькага росту,
Прыгожага стану.
Хто яе знае,
Той розум мае.

152 Прыйшоў, сказаў:
— Гэй, кіньце серп,
Ён не патрэбен вам цяпер:
Я сам сажну і змалачу,
Вам за падмогу заплачу.

153 На адным паваду
Сорак коней павяду.





154 У маткі —
Усе блізняткі:
Адзінаццаць дзяцей,
І кожнае за матку
У сем раз карацей.
А бацьку,
Што як сажань —
І матка не раўня.
Хто ведае,
Хай скажа,
Якая тут сям'я.



155 За хатай,
На дрывотні,
Стаіць лабач-баран:
На ім
Заместа воўны
Мільён
Рубцоў і ран.





156 З вясны і да марозаў
Выходзіў з вёскі вол —
Жалезным,
вострым рогам
Капаў, варочаў дол.
Капаў не ўзнараві́ўся,
На скібы паскрыляў,
За лета нарабіўся —
Усю зіму гуляў.



157 Вастразубы кракадзіл
Па ўсім полі пахадзіў,
Прараслі яго сляды
Ды ў зялёныя рады.

158 Білі мяне, білі,
Білі, калацілі,
І ў расе мачылі,
І ў цяпле сушылі,
І на клочча рвалі,
А пасля часалі,
А тады круцілі
Ды яшчэ маталі,

А затым бялілі
Ды яшчэ качалі,
А нарэшце сшылі
І на стол паслалі.



159 Як лебедзь, плыве
Па роснай траве.
Спявае ў ахвоту:
— Жых-жых ды жых-жых!
І робіць работу
За дзесяцярых.



160 Ехаў коннік Пахом —
Вы не заўважалі?
Сам усеўся вярхом,
Ногі за вушамі.



161 Не птушка — ляціць,
Не гром, а грыміць,
Нішто яму горы,
І рэкі, і моры,
Захочаш — падыме
На сёмае неба
І ўраз перакіне
Куды табе трэба.



162 Што за загадка:
Чорная курапатка
У гняздо з-за рэчкі
Прыляцела,
На чырвоныя яечкі
Села.



163 Белы голуб
Прыляцеў,
Белым крыллем
Шалясцеў
І з ўсёй зямлі
Навіны
Расказаў
За паўгадзіны.



164 То таўсцее,
То худзее,
На калене плача,
А хто чуе —
Не бядуе:
Весяліцца, скача.



165 Сам я голы і пусты,
Але голас мой густы,
І ўсім дзецям у страю
Я каманду падаю.

166 Белая баба
З Цагельнікаў родам
На покуці села
З замурзаным ротам.
Улетку —
Амаль на яе не глядзяць,
Узімку —
Спяшаецца кожны абняць.



167 Невялічкі
Шустры майстар,
Сам худы і галавасты,
А як возьмецца за працу,
Дык пачуеце адразу.

168 Курыца з чубочкам
На цвіку вісіць,
Хоць не есць нічога,
А ўсё просіць піць.



169 Ну і конь!
Як бяжыць —
Дык наўкол
Зямля дрыжыць.
Дым праз ноздры
Вылятае,
Вочы свецяцца
Агнём.
Вёску цэлую
Цягае —
І не ўгнацца
За канём.



170 Так звязалі Кузьму,
Што й вузлоў тых не знаць,
Што і ўцям не вазьму,
Як Кузьму развязаць.



171 Разумнаму Янульку
Прыдумаў чалавек
Драўляную кашульку —
Адну на цэлы век.
А той Янулька выбег
На чысты, белы выган, —
Дзе носам павядзе —
Дык там і след кладзе.






172 Сіні домік,
Сіні дом,
Ён, напэўна, ўсім вядом:
З сіняй стрэшкай,
Сінім донцам,
З вузкай шчылінкай-аконцам,
Над аконцам — вечка-крышка,
Не пралезе нават мышка.
Хто жыве ў ім — не відаць,
Гэта трэба адгадаць.



173 У зямлі мяне капалі,
Адкапанага — таптали,
Потым трапіў на кружала,
Моц ка мне прыйшла
з пажару,
Колькі жыў —
Людзей карміў,
Як знядужаў быў — старога
Спавілі, нібы малога.
А памёр — дык не хавалі,
Нават ямы не капалі,
Проста выкінулі косці,
Хоць не мелі, здэцца, злосці.

174 Сто братоў
І адзін брат
Сталі ў роўны,
Стройны рад.
Адным поясам усе
Падпяразаныя,
Адным шалікам усе
Перавязаныя.
На пасту стаяць браты,
Дзень і ноч не сходзяць,
Каб не мог ні ён, ні ты
Ў царстве іх нашкодзіць.

175 Першы кажа:
— Лепш зіма.
Летам ходу мне няма.
А другі ў адказ яму:
— Не люблю тваю зіму!
Летам болей, чым калі,
Мне разгону на зямлі!
Трэці выслухаў цішком
Дый сказаў на гэта:
— Ну, а мне — усё адно,
Ці зіма, ці лета.



176 Паспрабуйце адгадаць:
Тры нагі —
Ледзь-ледзь відаць,
Пасярод —
Усё жывот.
А вушэй?
А вушэй —
Толькі пара вушэй.



177 Дружу я з кожным хлапчуком,
Бываю з выгляду дваякай:
Удзень — заўсёды абручом,
А як надыдзе ноч — вужакай.



178 Ногі ёсць,
А не прайдуся,
Спінка ёсць,
А не кладуся,

І сядзенне ёсць,
А сам
Не сяджу ніколі.
Адгадаць
Ці ўдасца вам,
Што гэта такое?

179 Раскажу я вам пра нешта:
З ім вы дома жывяце,
У яго у носе рэшата
І лазня ў жываце.
На галоўцы гузік мае,
Знімеш шапку —
Парай чхне,
А рука — адна, крывая,
Ды і тая —
На спіне.





180 Сам без ног,
Малы,
Пузаты,
А такі скакун заўзяты!
Толькі стукні добра ў бок —
Як адразу пойдзе ўскок.
Яго скокі дзеці любяць,
Ды нагамі часам лупяць,
А яму — бы гэта й трэба:
Узлятае аж пад неба,
На каменне упадзе —
Хоць бы знак застаўся дзе!
Не паб'е
Сабе
Бакі.
Хто ж ён гэткі?
Хто такі?



181 Грызе,
Грызе,
Выядае,
Не глытае —
Выкідае,
Як увойдзе ў злосць —
Прагрызе наскрозь.



182 Хвост увесь на двары,
Толькі нос у нары,
І да той да пары,
Пакуль нос у нары —
Ў дом не зможа зайсці
Ні малы, ні стары.



183 Я трымаў спачатку клін,
Разгарнуў — зрабіўся блін.
Хлынуў дождж, цурчыць вада —
А мне з блінам не бяда.

184 Туды рог,
Сюды — рог,
Пасярод — нібы пірог,
А сама напхана пухам
І ў мяне
Ляжыць пад вухам.

185 І дзень ідзе,
І ноч — ідзе,
І трэці дзень, і сёмы.
Сваёй хадзе
Падлік вядзе,
Не ведаючы стомы.
А не стамляецца таму
(Хоць гулка сэрца б'ецца),
Што колькі б год ні йсці яму —
Ён з месца не скранецца.

186 Поле белае,
Няворнае,
Зерне дробненькае,
Чорнае
Хто умее, —
Той пасее,
А хто знае —
Адгадае.



187 Вось загадка дык загадка:
Дзе праеду — будзе гладка.
Толькі пальцам не крані —
Апячэш, як на агні.
А каб мог ты ўзяць мяне —
Маю ручку на спіне.



188 Што гэта за свінка:
Невялічкі рост,
Жалезная спінка,
Канапляны хвост?



189 Круглы,
Тоўсты,
Абкручаны
Мільёнамі
Абручыкаў.
Абручыкі-абручы,
Калі можаш — палічы.



190 У дзвюх родных матак —
Па пяць хлапчанятак,
Разам нарадзіліся,
На ўвесь век здружыліся.



191 Ідзе шчупачына
Зялёнай лагчынай,
Куды ён ні гляне —
Трава там павяне.



192 Вярхом сядаю,
На кім — не знаю,
Знаёмага ўбачу —
Адразу саскочу.



193 Дзінь — бразь,
Дзінь — бразь!
Чатыры чарапочкі
І ў кожным гразь.



194 Бягуць дарогай
Сычыкі,
Задраўшы ўгору
Лычыкі.



195 Як на той свет ідзе — дык рад,
Ад весялосці — скача,
А як вяртаецца назад —
То ўсю дарогу плача.





## АДГАДКІ



1 — маладзік. 2 — рыба. 3 — жаба. 4 — мурашка. 5 — снег. 6 — яйка і куранё. 7 — зоркі ў небе. 8 — верабей. 9 — пугач. 10 — карова. 11 — казёл. 12 — неба і зоркі. 13 — кот. 14 — асіна. 15 — мурашнік. 16 — вецер. 17 — гарбуз. 18 — раса. 19 — збожжа. 20 — морква. 21 — жук. 22 — дзень. 23 — дарога. 24 — суніца. 25 — зоркі ў небе. 26 — макаўка. 27 — лёд. 28 — крапіва. 29 — месяц. 30 — пчолы. 31 — соль. 32 — зялёная цыбуля. 33 — мурашнік. 34 — неба, зоркі, поўня. 35 — ячмень. 36 — каноплі. 37 — свіння і парасяты. 38 — певень. 39 — маліна. 40 — арэх. 41 — качаны. 42 — лісцёвае дрэва. 43 — бусел. 44 — курыца, яйкі, кураняты. 45 — ластаўка. 46 — пчолы. 47 — певень. 48 — мыш. 49 — чарапаха. 50 — ёлка, сасна, ядловец. 51 — маланка. 52 — рэдзька. 53 — месяц. 54 — дождж. 55 — вясёлка. 56 — яблык або груша. 57 — грыб. 58 — гусь. 59 — сонца. 60 — дзяцел. 61 — агурок. 62 — зоры і месяц. 63 — качан. 64 — куры. 65 — цень. 66 — курынае яйцо. 67 — неба ў зорах. 68 — хмаркі. 69 — снег. 70 — муха. 71 — ноч. 72 — конь. 73 — кот. 74 — месяц. 75 — бярозка. 76 — рамонкі. 77 — адуванчык. 78 — вавёрка. 79 — заяц. 80 — ліса. 81 — цыбуля. 82 — гарох. 83 — рэпа. 84 — ніва. 85 — дождж. 86 — зоркі і месяц. 87 — певень. 88 — чаромха. 89 — парэчкі чырвоныя і чорныя. 90 — дым. 91 — воўк. 92 — гарбуз. 93 — шыпшына. 94 — слівы. 95 — грыб. 96 — зоркі і месяц. 97 — камар. 98 — лядзяш. 99 — свіння. 100 — вожык. 101 — арэх. 102 — ручай. 103 — яйцо. 104 — павуцінне. 105 — рак. 106 — вішня. 107 — дарога. 108 — грыб. 109 — ручай, бераг, чарот. 110 — неба, зоркі, месяц. 111 — хлеб. 112 — жорны і мука. 113 — блін на патэльні. 114 — бочка або кадзь. 115 — бутэлька. 116 — вядро з почапкай. 117 — засланка ў печы. 118 — замок на дзвярах. 119 — клубок. 120 — каромысел з вёдрамі. 121 — канцы пояса. 122 — сетка, рыба, вада. 123 — чалавек у чоўне. 124 — язык. 125 — люлька. 126 — штаны. 127 — чалавек на кані. 128 — вочы. 129 — зубы. 130 — лыжка, зубы, язык. 131 — лыжка і міска. 132 — качарга і вуголле. 133 — комін. 134 — венік. 135 — званок. 136 — кій. 137 — барана. 138 — стол. 139 — клубок. 140 — каса. 141 — дуда. 142 — акно. 143 — гаршчок і вілы. 144 — рыбак з вудачкай. 145 — каўбаса на патэльні. 146 — трактар. 147 — самалёт. 148 — радыё. 149 — аловак. 150 — тэлеграф. 151 — кніга. 152 — камбайн. 153 — плот. 154 — граблі. 155 — калодка. 156 — плуг.

157 — сеялка. 158 — лён. 159 — касілка. 160 — акуляры. 161 — самалёт. 162 — гаршчок, вуголле. 163 — газета. 164 — гармонік. 165 — барабан. 166 — печ. 167 — малаток. 168 — рукамыйнік. 169 — паравоз. 170 — ланцуг. 171 — аловак. 172 — паштовая скрынка. 173 — гаршчок. 174 — плот. 175 — сані, калёсы, конь. 176 — цабэрак. 177 — папруга. 178 — крэсла. 179 — чайнік. 180 — мяч. 181 — свярдзёлак. 182 — вісячы замок. 183 — парасон. 184 — падушка. 185 — гадзіннік. 186 — кніжка. 187 — прас. 188 — іголка з ніткай. 189 — клубок. 190 — пальцы. 191 — каса. 192 — шапка. 193 — падковы. 194 — сані. 195 — вядро.



На белорусском языке

Нил Семенович Гилевич

ЗАГАДКИ

Для детей младшего школьного возраста

Издательство «Беларусь» Государственного комитета Совета Министров Белорусской ССР по печати. Минск, Ленинский проспект, 79

Рэдактар А. Дзеружынскі. Мастацкі рэдактар В. Жыжэнка. Тэхнічны рэдактар Я. Шляшынская. Карэктар Н. Лебедзева.

Здадзена ў набор 14/VII 1970 г. Падп. да друку 17/III 1971 г. Тыраж 50 000 экз. Фармат 84×90¹/₁₆. Папера афс. № 1. Ум. друк. арк. 9,1. Уч.-выд. арк. 5,89. Зак. 320. Цана 58 кап.

З гатовых дыяпазітываў надрукавана ў друкарні ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга выдавецтва ЦК КП Беларусі. Мінск, Ленінскі праспект, 79.

7-6-2
238-70